Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 010.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 4 снежня 1998 г. № 131 (523) Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Апошні рэйс

*Учора ў Беларусь даставілі дзве цынкавыя труны з Дагестана*

**Расіяне прывезлі целы двух беларусаў, якія загінулі ў Кізлярскім раёне на мяжы з Чачнёй.**

Старшы лейтэнант Сяргей Касцюкевіч быў родам з Пінска, а старшы сяржант Алег Карначоў — з Рэчыцы. Абодва воляю лёсу аказаліся ў Мурманску, дзе служылі ў мясцовым амоне. Некалькі месяцаў таму іх атрад адправілі ў Дагестан кантраляваць мяжу з Чачнёй. 29 лістапада іхняя мабільная група трапіла ў засаду. Ад куль невядомых бандытаў загінула пяць амонаўцаў, сярод іх — Сяргей Касцюкевіч, якому было 29 гадоў, і ягоны равеснік Алег Карначоў. Бацькі пажадалі, каб іх сыноў пахавалі ў роднай зямлі. Сёння ў Пінску і Рэчыцы развітваюцца з Сяргеем і Алегам.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

## На ёлку па спісах

*Міністэрства адукацыі распачало падрыхтоўку да навагодняй «прэзідэнцкай» ёлкі*

Гэтае мерапрыемства будзе праходзіць у мінскім цырку 29 снежня. Але ўжо цяпер чыноўнікі аддзелаў адукацыі складаюць спісы дзяцей, якіх допусцяць на ёлку да «бацькі». Кожная вобласць атрымала сваю квоту. Міністэрства адукацыі параіла ўключаць у спісы школьнікаў ад 9 да 14 гадоў і «пажадана» выхаванцаў інтэрнатаў, пераможцаў алімпіяд і фестываляў, а таксама прадстаўнікоў дзіцячых рухаў. Дэлегацыя горада Мінска ўжо сфармаваная і складаецца з 43 дзяцей і двух суправаджаючых выхавацеляў. Усе дзеці атрымаюць на прэзідэнцкай ёлцы бясплатныя падарункі.

А мінскі мэр Уладзімір Ярмошын адкрые сваю ёлку 28 снежня ў сталічным Палацы моладзі. Дэлегацыі дзяцей на гэтае мерапрыемства таксама даручана сфармаваць аддзелам адукацыі.

Дарэчы, у некаторых мінскіх школах забаранілі праводзіць святочныя вечары з ёлкай да канікулаў, якія пачнуцца 25 снежня. Ясна, што ў час вакацыяў сабраць дзяцей будзе даволі складана. Таму займацца калядняй ёлкай бацькам давядзецца самастойна і за свой кошт.

Мікола ВАЙТОВІЧ

## Святочны гандаль

**З 10 снежня ў Мінску распачнецца шырокамаштабная кампанія па продажу айчыннай прадукцыі да навагодніх святаў. Пра гэта нам паведамілі ў прэс-службе міністэрства гандлю.**

У крамах з'явяцца шакаладныя цукеркі «Камунаркі» і «Спартака». Гэты тавар пакуль не трапляе ў продаж, а назапашваецца на складах. Ужо сабралі каля 100 тысяч тон цукерак.

У міністэрстве гандлю запэўніваюць, што ніводная сям'я не застанецца без шампанскага, але яно паступіць у продаж крыху пазней, каб не выпілі да Новага года. Кошт адной бутэлькі беларускага шампанскага складзе каля 300 тысяч рублёў. Ужо назапасілі больш за 200 тысяч бутэлек. Прыкладна столькі ж збіраюцца разліць на працягу гэтага месяца.

Нормы водпуску на айчынную прадукцыю да святочнага стала ўстановяць мясцовыя ўлады.

Мікола ВАЙТОВІЧ



## Міністр без партфеля?

**Сёння міністр замежных справаў Іван Антановіч вяртаецца з Осла ў Мінск. Яго тут вельмі чакаюць.**

Паводле нашых звестак, прэзідэнт Лукашэнка збіраецца падпісаць указ пра аб'яднанне міністэрства замежных справаў і міністэрства знешнеэканамічных сувязяў у адну структуру. На пасаду міністра аб'яднанага ведамства мяркуецца Урал Латыпаў — цяперашні памочнік прэзідэнта.

А.Д.

## Стыхійны страйк

1 снежня на тры гадзіны спынілі работу інструментальны цэх гомельскага завода «Электраапаратура». Рабочыя вылучылі шэраг патрабаванняў да адміністрацыі, пагражаючы далейшымі забастоўкамі.

2 снежня на заводзе прайшоў стыхійны мітынг, на якім рабочыя заявілі, што даюць дзесяць дзён адміністрацыі прадпрыемства для задавальнення патрабаванняў, вылучаных 1 снежня падчас забастоўкі інструментальнага цэха. На мітынг сабралася каля 500 рабочых. Да прысутных выйшаў галоўны інжынер Віктар Жыгар. Яму і былі перададзеныя наступныя патрабаванні: прадставіць даныя аб узроўні зарплаты ўсіх работнікаў завода, павысіць заработную плату рабочаму персаналу, прывесці ў належны санітарны стан цэхі. У адваротным выпадку заводская арганізацыя Свабоднага прафсаюза мае намер працягваць акцыі пратэсту.

*БелаПАН*

## Такі прафсаюз не патрэбен

Усе рабочыя інструментальнага цэха Гомельскага станкабудаўнічага завода імя Кірава напісалі ў бухгалтэрыю завода заявы аб прыпыненні цэнтралізаваных выплаты прафсаюзных узносаў.

Інструментальшчыкі тлумачаць свае дзеянні тым, што прафсаюз нічога не робіць дзеля абароны іх правоў. Рабочыя заявілі, што адновяць выплату ўзносаў толькі пасля таго, як пабачаць рэальную работу свайго прафсаюза. Пры гэтым яны збіраюцца плаціць грошы асабіста і толькі тым прафсаюзным актывістам, якія будуць праяўляць актыўнасць у абароне іх правоў.

Старшыня савета аб'яднаных прафсаюзаў Гомельшчыны Анатоль Кабанец прызнаў, што прафсаюз сапраўды недастаткова дапамагае рабочым.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

*Прэзідэнт А.Лукашэнка накіраваў ліст прэзідэнту Б.Клінтану*

## Пакет з Драздоў

Па словах міністра замежных справаў Івана Антановіча, беларускае кіраўніцтва прызнае памылкі ў адносінах з краінамі Захаду, пра якія *«глыбока шкадуе і ніколі іх не паўторыць»*. Больш таго, Лукашэнка запэўнівае, што будзе выконваць міжнародна-прававыя абавязацельствы. З такой пазіцыяй міністр замежных справаў накіраваўся ў Осла на саміт кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў краінаў-членаў АБСЕ.

У час гэтага саміту Іван Антановіч плануе азнаёміць з пазіцыяй беларускіх уладаў трох міністраў замежных справаў — Вялікабрытаніі, Аўстрыі і Германіі. Дарэчы, Германія з першага студзеня 1999 года будзе старшынстваваць у савеце Еўрасаюза.

Як паведамілі нам у нямецкай амбасадзе, у сераду ў Мінск прыбыў эмісар Еўрасаюза Дзітмар Штудэман, ён будзе весці перамовы з прадстаўнікамі беларускага ўрада і адміністрацыі прэзідэнта па «драздоўскай» праблеме. У міністэрстве замежных справаў са спадаром Штудэманам сустрэўся намеснік міністра Уладзімір Герасімовіч. Ён паведаміў нам, што даведаўся пра лукашэнкаўскае пасланне на мінулым тыдні ў Нью-Йорку. Аднак Уладзімір Герасімовіч сказаў, што *«ніякіх прабачэнняў з беларускага боку ў пісьме няма»*. Намеснік міністра аднак спадзяецца, што пасланне будзе ўлічанае і канфлікт з Драздамі ўладзіцца. Ён пацвердзіў, што ў Драздах ідзе будаўніцтва новых рэзідэнцыяў для паслоў. На вырашэнне канфлікту спадзяецца і пасол у ЗША Валерый Цэпкала, які ўжо каторы месяц не мае магчымасці вярнуцца на сваё месца працы ў Вашынгтоне. Па ягоных словах, вырашэнне праблемы *«будзе залежаць ад пазіцыі Антановіча ў Осла, дзе з'явілася добрая магчымасць для ўрэгулявання канфлікту»*.

Як сцвярджае замежная прэса, *«назіральнікі ў Мінску скептычна рэагуюць на запэўніванні беларускага боку»*. Наўрад ці перабоі з прадуктамі харчавання прымусяць прэзідэнта Лукашэнку *«паклапаціцца пра нармалізацыю адносінаў з Амерыкай і краінамі Заходняй Еўропы»*. Беларуская ўлады да гэтага часу не дазволілі замежным дыпламатам наведаць адабраныя ў іх рэзідэнцыі ў Драздах, каб пацікавіцца, у якім стане знаходзяцца памяшканні. Наўрад ці беларускія ўлады шчыра хочуць вярнуцца на пазіцыі Венскай канвенцыі, якая прадугледжвае недатыкальнасць рэзідэнцыяў замежных дыпламатаў.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

## Кадравы дзень

Аляксандр Лукашэнка выканаў сваё нядаўняе абяцанне сур'ёзна ператасаваць чыноўніцкія кадры. У сераду прэзідэнт падпісаў указы аб адстаўках і новых кадравых прызначэннях.

Пашанцавала былому прадстаўніку прэзідэнта ў органах беларуска-расійскага саюза Васілю Даўгалёву. Ён атрымаў пасаду першага намесніка прэм'ер-міністра.

А вось старшыню Дзяржкантролю Мікалая Дамашкевіча, кіраўніка Мінскага аблвыканкама Пятра Пётуха і міністра сельскай гаспадаркі Івана Шаколу прэзідэнт значна панізіў.

Дамашкевіч цяпер будзе кіраваць сталічнай вобласцю, Пётух узначаліць прадпрыемства «Белтрансгаз», а Шакола, які быў прызначаны міністрам год таму пасля арышту свайго папярэдніка Васіля Лявонава, наогул звольнены з фармулёўкай «у сувязі з пераходам на іншую работу».



В.Даўгалёў.



Ю.Барoдзіч.



П.Пётух.



І.Шакола.

Галоўным кантралёрам краіны стаў прэзідэнт канцэрна «Беллегпрам» Андрэй Кабякоў, а пасаду Шаколы займе ягоны былы першы намеснік Юрый Мароз. Не ўседзеў у сваім крэсле і саўмінаўскі доўгажыхар Уладзімір Нічыпаровіч, які доўгія гады кіраваў міністэрствам статыстыкі і аналізу. Цяпер статыстыкі будуць складаць свае справаздачы аб «росце вытворчасці» і «рэкордных надоях» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Зіноўскага.

Лукашэнка таксама прызначыў новых галоўных «вертыкальшчыкаў» у Ваўкавыскі, Калінкавіцкі, Рагачоўскі і Верхнядзвінскі раёны.

Звольніў прэзідэнт і свайго начальніка службы бяспекі палкоўніка Юрыя Бародзіча. Гэты чалавек заўсёды быў гатовы выканаць любы прэзідэнцкі загад. Нагадаем, што ў красавіку 1995 г. менавіта Бародзіч кіраваў захопам і дэпартацыяй з будынка Вярхоўнага Савета групы дэпутатаў апазіцыі БНФ, якія пратэставалі супраць прызначэння Лукашэнкам рэферэндуму. І вось цяпер, як паведамляе прэс-служба Савета бяспекі, Бародзіч *«адкамандзіраваны ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі для далейшага праходжання службы на адным з адказных участкаў забеспячэння нацыянальнай бяспекі РБ»*.

Усім знятым чыноўнікам у якасці кампенсацыі аб'яўлена асабістая падзяка ад прэзідэнта *«за добрасумленнае выкананне сваіх службовых абавязкаў»*.

Але калі яны былі такімі адказнымі і добрасумленнымі, навошта ж было іх здымаць?

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## 10 сутак за плакат

10 сутак арышту атрымаў старшыня гомельскага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта Яўген Мурашка за тое, што прадаваў на рынку плакат з надпісам: «Злачынная тая ўлада, якая парушае правы грамадзян».

Суддзя Цэнтральнага райсуда Гомеля Марына Дамненка паўтара месяца таму прысудзіла Я.Мурашку сямімільённы штраф за правядзенне несанкцыяванага пікета перад будынкам гарвыканкама. Каб аплаціць гэты штраф, беспрацоўны старшыня і пайшоў на рынак, дзе спрабаваў прадаць злашчасны плакат за 7 мільёнаў рублёў, але быў затрыманы міліцыяй. І вось цяпер тая ж самая суддзя вырашыла, што Мурашка на рынку не гандляваў, а зноў праводзіў несанкцыяваны пікет. За гэта яна і ўляпіла яму 10 сутак арышту.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Аркестр каля турмы

2 снежня пасля 15-сутачнага адміністрацыйнага арышту са спецпрыёмніка-размеркавальніка ГУУС Мінгарвыканкама вызвалены сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык і назіральнік праваабарончага цэнтра «Вясна-96» Вадзім Канапацкі. Яны былі асуджаныя на такі працяглы тэрмін суддзёй Партызанскага раённага суда Мінска Мікалаем Трубнікавым за ўдзел у акцыі рабочага пратэсту, якая прайшла 5 лістапада.

Каля дзвярэй спецпрыёмніка-размеркавальніка Канапацкага сустракалі каля двух дзесяткаў актывістаў БНФ, а таксама невялікі духавы аркестр, які сыграў папулярную мелодыю з кінафільма «Карнавальная ноч».

*БелаПАН*

## БПСМ атрымаў падарунак



*Лідэр БПСМ Усевалад Янчэўскі.*

1 снежня, у Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу, дэлегацыя гомельскай маладзёжнай арганізацыі «Грамадзянскі форум» на чале са сваім старшынёй Алесем Карніенкам наведала Гомельскі абкам БПСМ. Маладыя людзі ўручылі першаму сакратару абкама Мацеўскаму прыгожа аздоблены пакунак з надзейнымі сродкамі абароны ад СНІДу (прэзерватывамі) і надпісам: «Каб вы не размнажаліся». Падобны пакунак з прэзерватывамі і спецыяльнай літаратурай па прафілактыцы СНІДу быў перададзены і ў офіс гомельскага гаркама БПСМ.

Як сказаў А.Карніенка, гэтай акцыяй актывісты «Грамадзянскага форуму» спадзяюцца данамагчы беларускаму грамадству пазбавіцца не толькі ад чумы XX стагоддзя, але і ад не менш небяспечнай хваробы — лукашызму, распаўсюджванне якой займаецца БПСМ.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Масла па талонах

У Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці ў крамах прадаюць масла па «спажывецкіх картках» і пашпартах з мясцовай прапіскай. Каб атрымаць сваю месячную «пайку» (200 грамаў), чалавек павінен звяртацца ў краму па месцы жыхарства. Як патлумачылі нам у райвыканкаме, *«масла прадаюць па спісах, каб яго не вывозілі ў суседнюю Літву»*.

Інакш вырашылі праблему ў Карэліцкім раёне. У вёсках прадаюць па спісах 300 грамаў масла і адзін кілаграм цукру на месяц. Жыхары саміх Карэлічаў атрымалі талоны, якія разнеслі па дамах райвыканкамаўскія работнікі. Па словах супрацоўніка райвыканкама, пайсці на такія меры *«папрасілі самі людзі»*.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## На кожны тузін па бутэльцы шампанскага

**3 снежня ў Гродне адбылася прэс-канферэнцыя, на якой начальнік упраўлення гандлю і грамадскага харчавання аблвыканкама Л.Раманін расказаў пра сітуацыю на спажывецкім рынку вобласці.**

Ён паведаміў, што людзі «метут все подряд». У Гродне раптам сталі разбіраць нават воцат. Спадар Раманін перакананы, што калі не падняць цэны на такія прадукты, як масла, нічога не будзе. Мауляў, калі гарэлка ў нас каштуе 1 долар, а ў Літве — 5, яе ўсё адно будуць вывозіць туды.

Наконт харчовай дапамогі праваслаўным манастырам у Расійскай Федэрацыі (па некаторых звестках, разнарадка з Мінска паступіла бадай ва ўсе райвыканкамы), дык спадар Раманін адказаў наступнае: нічога страшнага, калі ім паслалі пару фургонаў капусты ці бульбы і паўтоны масла.

Кіраўнік гандлю сказаў, што з верасня на базах назапашваюць шампанскае, якое будуць прадаваць з 10 снежня. Ёсць крыху болей за 100 тысяч бутэлек, гэта значыцца па бутэльцы на 12—13 жыхароў вобласці, падсумаваў Л.Раманін.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Пабаяліся холаду?

**Запланаваная на 2 снежня масавая акцыя пратэсту беларускіх прафсаюзаў перанесеная на 27 студзеня наступнага года.**

Пра гэта заявілі 2 снежня на прэс-канферэнцыі ў Мінску кіраўнікі пяці найбуйнейшых галіновых прафсаюзаў. Нагадаем, што арганізатары акцыі, якія стварылі ў лістападзе каардынацыйны савет, мелі намер правесці шэсце рабочых ад прахадных заводаў да Палаца спорту, дзе павінен быў адбыцца мітынг. Аналагічныя акцыі пратэсту планавалася арганізаваць і ў іншых гарадах рэспублікі.

Прычынамі пераносу акцыяў арганізатары назвалі згоду ўрада пайсці на дыялог з прафсаюзамі, а таксама 20-градусныя маразы.

Адначасова арганізатары прызналі існаванне моцнага ўціску, які напярэдадні акцыі аказвалі на ФПБ і яе старшыню выканаўчая ўлада, кіраўнікі шэрагу прадпрыемстваў, а таксама дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта аб магчымай страце прафсаюзамі стратэгічнай ініцыятывы ў сувязі з пераносам акцыі, лідэры галіновых прафсаюзаў заявілі, што не лічаць сваю палітыку згодніцкай. Па іх словах, будзе працягвацца актыўная тлумачальная работа сярод працоўных з тым, каб вывесці на студзеньскую акцыю як мага больш людзей.

*БелаПАН*

## Марыя Аліева: «У прафсаюзах – штрэйкбрэхеры»



*На здымку: А.Бухвостаў.*

Лідэр Свабоднага прафсаюза Марыя Аліева лічыць, што акцыя 2 снежня не адбылася таму, што справе рабочых «здрадзіла» вярхушка афіцыйных прафсаюзаў. Так заявіла М.Аліева ў інтэрв'ю нашаму карэспандэнту.

**— Прафсаюзныя кіраўнікі апраўдваюцца тым, што ўрад пайшоў з імі на перамовы, і таму яны даюць «адбой» масавай акцыі. Вы верыце ў гэтыя перамовы?**

— Я не веру ні ў перамовы, ні тым, хто пра іх кажа. Урад нічога не здольны вырашыць, у яго рукі звязаныя загадамі прэзідэнта, які ўжо прывёў нас да пустых паліцаў у крамах. Словам Бухвостава, Фядыніча ды іншых «штрэйкбрэхераў» у мяне таксама няма веры: іх запалохалі пагрозамі адабраць маёмасць: офіс, дамы адпачынку, іншыя аб'екты. Вось і скончылася іхняя прынцыповасць.

**— Вы ўпэўненыя, што рабочыя гатовыя былі падтрымаць акцыю?**

— Нашыя людзі на заводах сцвярджалі, што гатовых прыняць удзел у акцыі было даставкова. Выйшла б не меней за 10 тысяч чалавек. Маглі і яшчэ далучыцца.

**— З якіх прадпрыемстваў гэтыя звесткі?**

— Трактарны, МАЗ, электратэхнічны, завод колавых цягачоў, завод аўтаматычных ліній, шарыкападшыпнікавы. Але справа нават не ў колькасці. Астатні народ баіцца, і акцыя была б прыкладам таго, што змагацца магчыма і трэба.

**— А што далей? Ну, выйшлі б у сераду 10—20 тысяч, што б гэта змяніла?**

— Зараз улада кажа, што да мітынгаў падбухтораве купка тых, хто «гвалтам крычыць». Пасля такога выступу яна б убачыла, што сапраўды шмат незадаволеных і галодных.

**— Свабодны прафсаюз зараз кіне супрацоўнічаць з «афіцыйнымі» калегамі?**

— Нашае супрацоўніцтва і дагэтуль было сімвалічным: мы падтрымлівалі і будзем падтрымліваць усе сапраўдныя справы ў абарону рабочых, аднак на рахунку афіцыйных прафсаюзаў іх усё меней. Хай потым не скардзяцца, што людзі ад іх адвярнуліся.

*Гутарыў* **Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## КАДРЫ



## Лісты ў рэдакцыю

**НЕ МОГУ СМОТРЕТЬ** на весь сегодняшний бред спокойно. Я еще молодой гражданин Своей страны, не хочу отсюда уезжать в поисках лучшей доли. Я хочу жить здесь, видеть Свой, а не чужой народ, говорить на Своем, а не на чужом языке, радоваться Своей, а не чужой природе! Я хочу жить здесь, но жить нормально! Нормально — это спокойно работать и зарабатывать, иметь свой дом и семью с детьми, быть спокойным за них. Все это нормальные, человеческие желания. Я не хочу повторения судьбы моих бабушек и дедушек, пропахавших всю свою жизнь, но так ничего и не заработав.

Президент Лукашенко должен понять наконец, куда он завел страну. Мы видим основные его «достижения»: смерть экономики, крах производства, абсолютное обнищание народа, криминогенная обстановка, социальная апатия, установление режима, все больше похожего на тоталитарный. Не страна, а черная дыра в центре Европы!

У Лукашенко еще есть шанс сделать действительно настоящий поступок. Господин президент, уйдите! Дайте нормально работать, жить, не терзайте несчастную Беларусь. Время показало, что лучше вы сделать не способны и не хотите. Тогда дайте это сделать другим. Уйдя сейчас, вы поступите по крайней мере честно. Не искушайте судьбу.

Я хочу, чтобы дети мои уже успели пожить нормально.

**Виталий ГРИНЧИК,** *инженер, г.Минск*

**МЯНЕ ТУРБУЕ** малы наклад нашых незалежных выданняў. Калі лічыць, што ў нашай краіне больш за 1 млн. чалавек, якія свядома падтрымліваюць дэмакратыю, свабоду слова, то гэта каля 250-ці тысячы сям'яў. Што калі кожная сям'я падпіша дзве-тры незалежныя газеты?! Трэба, спадарства, не на словах, а грашыма падтрымаць наша свабоднае слова. Асабліва — беларускае незалежнае слова.

**Ангеліна МАСЮТА,** *г.Мінск*

**ЕСЛИ** у редакции НАВІНАЎ есть выход на Москву, то прошу сообщить «чикагским мальчикам», повинным в российском экономическом бардаке, о том, что в белорусском правительстве и МИДе РБ имеются доморощенные «минские мальчики», способные в случае чего и Америку вытащить из ее экономического бума.

**Л.БЕЗРОДНЫЙ,** *г.Минск*

**СІТУАЦЫЯ** з гандлем дэфіцытнымі харчовымі таварамі ў Полацку і Наваполацку нагадвае аб найгоршых савецкіх часах. Зараз усе жыхары двух гарадоў рашэннем мясцовых «вертыкальшчыкаў» «замацоўваюцца» за пэўнымі крамамі, дзе, прад'явіўшы пашпарт, можна набыць сваю «пайку» — 200 г. масла і 0,5 кг цукру. Цікава, але жонак мясцовага кіраўніцтва ў чэргах, у якіх мусяць стаяць «простыя смертныя» пасля цяжкага працоўнага дня, ніхто не бачыў. Можа, яны не ядуць масла?

**Гандрусь СТРЭМКА,** *г.Наваполацк*

## Надвор'е

**ПРОШЕДШИЙ** ноябрь запомнится как месяц-рекордсмен по холодам. Своими морозами он опередил календарную зиму на целых два месяца. Ведь морозы, которые ударили в третьей декаде ноября (до 20—24° ниже нуля), по статистике бывают только в январе, да и то не ежегодно.

К счастью, в этом году земля была укрыта снегом, высота которого к концу месяца была от 3—7 см в Гродненской, Минской и Брестской областях до 8—13 см — на остальной территории Беларуси, а кое-где в Гомельской области снежный покров достигал 14—15 см.

Аномальный ноябрь передал свою холодную эстафету декабрю, который стартовал истинными морозами до 20—25 градусов. Причиной таких «крутых» температур стал Сибирский антициклон, под господство которого попало огромное пространство от Англии до Сахалина.

По прогнозу, вся первая декада этого месяца предполагается на 3—4 градуса холоднее обычного (со средней температурой -4, -9 градусов). В целом же декабрь прогнозируется близким к норме со средней температурой -2, -5 градусов и количеством осадков 40—60 мм.

По предварительным данным, из зимних месяцев самым холодным прогнозируется февраль 1999 года, средняя температура которого ожидается на 1,5 градуса ниже нормы (февральская «норма» температуры — -3,5, -8 градусов). Что касается января, то его температурный режим прогнозируется в интервале -4,5, -8 градусов, а эти значения являются обычными для января.

**Вера ЧИЖИК,** *инженер-синоптик Белгидрометцентра*



IREX/ProMedia

# Чэргі пакуль маўчаць

**К**АЛІ трапляеш сёння ў крамы, запоўненыя вялізнымі чэргамі, дык не пакідае ўражанне, што ты апынуўся ва ўчарашнім дні. У апошнія гады існавання СССР чэргі былі штодзённай з'явай. Усё было па талонах: мыла, гарэлка, дзіцячае харчаванне, крупы, макароны. Сёння пакуль талонаў няма, але ёсць дэфіцыт, ёсць чэргі. Мала што змянілася, толькі ў крамах паявіліся новыя прылаўкі, сучасны інтэр'ер. Але людзі засталіся тыя ж самыя, як і 8-9 гадоў таму. Яны пакорна сталі ў чэргі.

Інтэлігенцыя пераважна моўчкі чакае свайго кавалка. Просты люд, наадварот, адчувае сябе, як рыба ў вадзе, сярод сабе падобных. Можна пачуць нават жарты, хаця часам даходзіць у чэргах і да лаянкі. Але грызуцца паміж сабою, на ўлады гнеў свой не пераводзяць. Максімум — на марудлівую прадаўшчыцу. У нас у Гродне ў адным месцы чаргу па масла займалі з 5-ці раніцы, чакаючы на марозе некалькі гадзінаў. Прычым масла прадавалася не ў памяшканні, а ў вулічным кіёску. Апавядаюць, як недзе прывезлі замарожаны вялікі кавалак масла, і публіка ледзьве не пабіла прадаўшчыцу, якая не магла яго разрэзаць на часткі.

У таварыства аховы правоў спажыўцоў сталі зноў як у савецкія часы паступаць скаргі, што прадаўцы нешта спрабуюць прыхаваць пад прылаўкам. Апошнім часам людзі імкнуцца стварыць хатнія запасы прадуктаў, якія пакуль падаражэлі нязначна. Усё гэта ўжо было ў савецкія часы, калі ў слоікі закатвалася не толькі мяса, але і каўбасы, вермішэль, мука. Гэтыя прыпасы потым псаваліся, і смеццепроводы былі поўныя такіх хатніх «кансерваў». Цяпер, праўда, паявілася новая магчымасць — назапашваць не прадукты, а валюту, што ў савецкія часы было забаронена. Але рэальна магчымасці яе набыць ва ўмовах такога крызісу таксама невялікія.

А што думаюць у саміх чэргах наконт дэфіцыту? Адныя згодны, каб зноў былі талоны і кожны «мог спакойна купіць свае 300 грамаў масла». Дарэчы, у горадзе нават паявіліся чуткі, што талоны ўжо нібыта надрукаваныя. Некаторыя, аднак, лічаць, што няхай падымуць цэны, але кампенсуюць кожнаму падвышку грашыма. Першыя засталіся савецкімі людзьмі да шпіка касцей, другія ўжо мысляць па-сучаснаму. Адзінае, што пры такой інфляцыі пакуль атрымаеш кампенсацыю, грошы гэтыя значна абясцэняцца.

Такім чынам, зноў, як у савецкія часы, кавалак масла або каўбасы становіцца не сродкам для жыцця, а па сутнасці ягонай мэтай. Людзі зноўку свае мары, жаданні, памкненні звязваюць з тым, ці ўдасца ім сёння паспець заняць чаргу, выстаяць у ёй і каб хапіла яек, фаршу ці кураных шыек. Каб не застацца напалову галодным.

Як ні дзіўна гэта можа прагучаць, але нашым людзям уласціва нейкае падсвядомае жаданне перыядычна «кучкавацца». Маўляў, усім цяжка, усе стаяць у чарзе, не я адзін, нас многа. Гэта ў пэўнай ступені дапамагае перажываць цяжкасці. Аўстрыйскі пісьменнік Э.Канэці, аўтар кнігі «Маса і ўлада» наступным чынам тлумачыў уласцівасць людзей збірацца разам, каб адчуць сябе роўнымі: *«У цеснаце, калі паміж людзьмі ўжо няма адлегласці, калі цела прыціснута да цела, кожны адчувае другога як самога сябе. Палёгка ад гэтага велізарная. Дзеля гэтага шчаслівага імгнення, калі ніхто не адчувае сябе большым і лепшым за другога, людзі злучаюцца ў масу».*

Чэргі, як быццам, пакуль не задаюць пытанняў: чаму так сталася і хто вінаваты? А тым часам ёсць у беларусаў чалавек, які як нейкі бацька ўвесь час дбае пра іхні хлеб надзённы. Ён і сеяць, і жаць не грэбуе. Дзякуючы тэлебачанню кожная сям'я на ўласныя вочы бачыць, як ён у белым халаце то на «Камароўцы» інспектуе, ці правільна мяса прадаюць. Альбо, як нядаўна, — правярае ў лядоўнях свіныя тушы, цыбулю і бульбу — на гароднінай базе. У заводскім цэхуназірае, ці добрыя халадзільнікі робяць для насельніцтва на сталічным «Атланце». Штогод, як Дзед Мароз, абяцае кожнай сям'і шампанскае да навагодняга стала.

Прычым, заўсёды ён — барацьбіт за сацыяльную справядлівасць. Чатыры гады таму на хлеб і малако былі ўпершыню пры ім паднятыя цэны, праўда, зусім нязначна. Ён адразу знайшоў вінаватых і «адкруціў цэны назад». Ягоную «прынцыповасць», само сабой, шырока рэкламавала тэлебачанне. Праўда, цяпер, калі рэзка падскочыў кошт той жа гарэлкі, прэзідэнт абмежаваўся крытыкай «вінаватых» і мяняць нічога не стаў. Затое зніклі чэргі ў гарэлачных аддзелах. А гэта таксама маленькая перамога на ніве народнай папулярнасці. Ва ўсякім разе, «дарагія жэншчыны» будуць яму ўдзячныя.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Рынок «успокоился». Хорошо, если не навсегда

**В** МАГАЗИНАХ крупных городов какое-никакое мясо еще бывает, а в маленьких городах его днем с огнем не сыщешь.

В Смолевичах, где пришлось недавно побывать, мяса не удалось обнаружить ни в одном из магазинов, в том числе и в «Ветеране», созданном для обслуживания этой категории людей еще в социалистические дефицитные времена. Теперь же вроде рынок, но тоже своеобразный, социалистический. Очевидно поэтому на базарчике возле горсовета торговали исключительно «колониальным» товаром, да несколько старушек в пластмассовых бутылях продавали молоко от частного сектора.

Короче, предложение сельхозпродукции собственного производства скудное и убогое. Понятно, что и импортного, исключая растительное масло, сахар, рис и очень дорогую рыбу, товара тоже почти нет. Такое впечатление, что хозяйственная, а значит и торговая жизнь если не остановилась совсем, то стабилизировалась на очень низком уровне. Очевидно исполнилось обещание Лукашенко, которое он дал труженикам Круглянского района: к 1 ноября, сказал он, рынок успокоится. Теперь рынок вполне спокоен. Хорошо, если «успокоился» на время, а не навсегда.

В прошлые выходные, когда распространился слух о том, что с 1 декабря водка подорожает еще на 50%, публика осталась совершенно равнодушной. Пустые кошельки умеряют потребительские настроения больше указов президента и настраивают на философский лад.

## За что боролись?

Наш народ не приучен к элементарному материальному достатку. Потребности основной массы людей по сей день остались очень скромными, на уровне «пищи вообще». А как у вас с питанием? — этот вопрос до сих пор задается любому приезжему хоть из Беларуси, хоть из СНГ. Правда, об этом уже не спрашивают поляков и прибалтов. Многие знают, что там питаются гораздо лучше, чем у нас.

На недавнем митинге возле тракторного завода довелось пообщаться с женщиной, которая гордится своим сорокалетним производственным стажем и скудным питанием во все трудовые годы: ела, мол, «ливерку». Ей и в голову не приходит, что кто-то в это время поедал бифштексы с кровью, что вообще того ливера у любой свиньи гораздо меньше, чем собственно мяса. Кто ж его съел, это мясо?

У другой знакомой старушки, политической сторонницы Лукашенко, скудный быт тоже выработал жизнестойкость, но с прагматическим уклоном. Поэтому она на митинги не ходит, а бродит смотреть, что выбросили... Бывает, понятно, выбрасывают. Однажды, например, ей удалось четыре раза занять очередь в фирменном магазине «Белые росы» и «всего за полтора часа» купить 8 десятков яиц. Ничего не скажешь, хороша старушка. Такая не пропадет.

Времени у нее много, денег мало. У кого-то, наоборот, деньги есть, времени в обрез. Выбирай, что лучше: зарабатывать деньги или стоять в очереди. Деньги, как утверждает Гринпис устами Николая Фоменко, нельзя есть. Тем более, такие, как у нас. Потому что в нашем государстве они не служат ни средством платежа, ни средством обращения, ни средством накопления. Они служат исключительно средством обмана.



*Сами съедим и детям дадим.*

Вот пример — типичный, но и характерный для отношений государства к реальному производителю. В конце 1991 года знакомые старики сдали колхозу корову в счет его плана госпоставок, чтобы обменять ее на первотелку. Но колхоз деньги долго не выплачивал, поэтому выручка за сданную и уже съеденную кем-то корову тощала на глазах. Когда деньги все-таки выплатили, за них можно было купить разве что козу. Пришлось снимать с книжки все семейные сбережения, чтобы купить теленка.

Хороша, купля-продажа? С той поры много воды утекло, корова старилась вместе с хозяйкой, и решено было ее продать. Чтобы купить что-нибудь стоящее. Но опять подгадали под «дефолт». Хоть и пошла буренка по высшей категории упитанности, но за 250 кг мяса в убойном весе база заплатила всего 20 миллионов «зайцами». За эти деньги теперь не купишь и пол-телевизора, перед которым старушка хотела коротать зимние вечера.

Вот такой предварительный итог жизни, в которой были те же 40 лет трудового стажа, непосильный почти рабский труд, плюс скотина и огород. И полное отсутствие всякого свободного времени.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

# «Книгу из библиотек изъять...»

ПАЧАТАК быў пакладзены два гады таму, калі ў Беларусі пачалі знішчаць «няправільныя» школьныя падручнікі. Летась узяліся перапісваць гісторыю Курапатаў. Цяпер улады адраджаюць яшчэ адну практыку сталінскіх часоў: па дырэктыве «кампетэнтных органаў» з бібліятэк выдаляюць «няправільныя» кнігі.

Пра гэта сведчыць рапарт «О выводе из обращения «Словника Берестейщини». На дакуменце стаіць дата (10.08.1998 г.) і подпіс в.а. начальніка ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Н.Леўчука.

360-старонкавая кніга ўкраінскага аўтара Уладзіміра Леанюка выйшла ў Львове ў 1996 г. Яна выклікала спрэчкі ў вузкіх колах гісторыкаў і этнографаў, але тады кніга не была заўважаная ўладамі, хаця і свабодна прадавалася ў кнігарнях Брэста. Украінскае грамадска-культурнае таварыства, афіцыйна зарэгістраванае ў Беларусі, перадало 27 асобнікаў гэтага энцыклапедычнага даведніка ў бібліятэкі Брэсцкай вобласці. І вось праз два гады спрацоўвае бюракратычная машына. Чаму менавіта цяпер?

Шэф Савета бяспекі Віктар Шэйман, выступаючы на «слуханнях па правах чалавека ў нацыянальным сходзе», заявіў, што *«мы не дапусцім стварэння ў нас у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях свайго Косава»*. Відаць, органы бяспекі, не маючы рэальных ворагаў, каб апраўдваць існаванне гіганцкага апарату спецслужбаў, вырашылі эксплуатаваць міф пра сепаратызм гродзенскіх палякаў і ўкраінцаў Берасцейшчыны і Піншчыны.

Трэба думаць, што, атрымаўшы загад *«узмацніць барацьбу з сепаратызмам»*, інстанцыі ўзяліся шукаць, як бы адрэагаваць. 15 ліпеня старшыня Дзяржкамітэта па справах нацыянальных і рэлігійных меншасцяў А.Білык (што цікава, сам па паходжанні ўкраінец) дасылае ў Брэсцкі аблвыканкам ліст за № 03-04/762 «О распространении «Словника Берестейщини», які пачынаецца так: *«Госкомитет имеет информацию, согласно которой УКГТ распространил по библиотекам области...»* У лісце сцвярджаецца, што гэтае выданне прапагандуе нацыяналістычныя ідэі, ухваляе дзейнасць антысавецкіх фармаванняў у 1941—1952 гг. Высноваробіцца так: *«Комитет считает, что нахождение подобного рода «литературы» в фондах библиотек не способствует стабильности на территории области, бросает тень на белорусско-украинские отношения».*

17 ліпеня старшыня Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Заламай, адарваўшыся ад уборачных клопатаў, падпісвае распараджэнне № 251-8, у якім просіць *«изучить вопрос и внести предложение»*. У той самы дзень ягоны намеснік В.Захарчанка даручае групе чыноўнікаў *«проверить возможность поступления издания в библиотеки»*. *«В случае подтверждения информации,* — патрабуе ён, — *решить вопрос о его выводе из обращения. О результатах информируйте»*. І вось з'яўляецца цытаваны вышэй рапарт пра выдаленне кнігі з бібліятэк.




У «Словнику Берестейщини», над якім аўтар працаваў 15 гадоў, сабраныя звесткі пра гісторыю, культуру і прыроду рэгіёна. Гэты край даў шмат беларускіх (А.Разанаў, Я.Янішчыц, В.Сёмуха) і ўкраінскіх літаратараў. Як вядома, на поўдні Берасцейшчыны гавораць на своеасаблівых дыялектах, набліжаных да ўкраінскай мовы, і шмат хто з мясцовых жыхароў лічыць сябе ўкраінцамі. Кнігу Леанюка чыноўнікі прызналі «крамольнай» за тое, што ў ёй гісторыя рэгіёна асвятляецца з украінскіх пазіцыяў, а мясцовае насельніцтва трактуецца як украінскае. Пры гэтым заклікаў да перадзелу межаў у кнізе няма. Проста выкладаецца іншы погляд на гісторыю і этнічную карціну адной часткі такой вялікай краіны, як Беларусь.

Цяпер можаце ўявіць сабе, які рэзананс атрымае на Украіне «бібліятэчная» акцыя беларускіх цэнзараў.

**Андрэй ДЫНЬКО**

*Бывший житель Гродно Владимир Яковлев попросил в Литве политического убежища и получил разрешение временно остаться*

# В поисках убежища

В белорусских демократических кругах времен перестройки этот человек многих «достал» своими идеями и странным поведением. Потом он куда-то пропал, но полгода назад «выплыл» в Чехии, где тоже просил политического убежища.

И вот 26 ноября литовские пограничники сняли В.Яковлева с поезда на литовско-польской границе, поскольку он прибыл без нужных документов. Ступив на литовскую землю, этот 49-летний гражданин заявил, что не намерен более ее покидать. Департамент миграции дал на это добро до выяснения, нет ли препятствующих этому причин. Правда, с размещением В.Яковлеву не повезло: его поселили в Пабрадском регистрационном центре.

Центр переполнен после задержания накануне на той же литовско-польской границе 113 нелегалов из Азии. Тем не менее его директор Эвальдас Туйнила сообщил, что В.Яковлев пребывает здесь на особом положении и даже получил отдельную комнату. Хотя бы потому, что не прятался по лесам и хуторам, а, как предусмотрено международной конвенцией, сразу же попросил политического убежища.

Литовские должностные лица обнаружили у политического беженца удостоверение, свидетельствующее, что он является редактором «Новой России». Сам редактор утверждает, что выпускал эту газету то на территории Беларуси, то в России. Он часто посещал Литву. У Яковлева имеется диплом историка, выданный Гродненским университетом. Он также заявил, что являлся активистом Белорусского Народного Фронта, а посему ему грозит расправа в этой стране.

Из 220 жителей Пабрадского центра с аналогичными прошениями к литовским властям обратились 26 человек. В то же время в центре беженцев в Рукле права на политическое убежище в Литве уже ожидают 220 человек.

После вступления в действие соответствующего закона в Литве его получили 28 иностранцев. Среди них супруги из Грузии, которые покинули эту страну, поскольку являлись сторонниками бывшего президента Гамсахурдиа.

**Татьяна КОМОРСКАЯ**

ДАГЕРРОТИП

# Наш правитель пророчит Польше ужасное будущее

*А некто Костян даже грозит кулаком полякам*

**Семен БУКЧИН**

Есть такое у нас достаточно распространенное мнение: мол, благодаря батьке-скандалисту мир узнал о Беларуси и проявляет к ней постоянное внимание. Ничего подобного. Мир особо не интересуется Беларусью. Точнее, интересуется не более, чем ранее. Что же касается батьки-скандалиста, то мир давно поставил его в один ряд с мелкими и скучными провинциальными диктаторами. Имея в виду это обстоятельство, можно утверждать, что Беларусь мировому сообществу скорее неинтересна, нежели наоборот.

И если в минувший вторник первый канал Польского телевидения посвятил целых две минуты выступлению правителя на Минском тракторном заводе, то только потому, что в его обращенном к рабочим, как всегда эмоционально-демагогическом выступлении было и о Польше. Правитель пугал минских работяг «ужасным» польским опытом и пророчил Польше в ближайшем будущем полную катастрофу на фоне, естественно, «стабильной жизни» в Беларуси.

Дело ясное. Россия рухнула — вот они, плоды бездумной демократии... Значит, на российский пример бедствующим белорусам ссылаться ныне невозможно. На востоке, таким образом, «положительный пример» обеспечен. Но вот чертова Польша со своей прогрессирующей экономикой сидит, как бревно в глазу! Поэтому разоблачим мнимые польские успехи! Запугаем белоруса кошмарным опытом и с запада! Пусть знает «простой белорус», что Польша вся в долгах как в шелках. А белорус, хотя и бедный, зато никаких серьезных долгов перед проклятым капиталистическим Западом не имеет.

Что ж, разберемся с польскими долгами... Во-первых, утверждение, что Польша нынче задолжала 50 миллиардов долларов — это абсолютная чепуха. Сегодня страна реально должна Западу немногим более 30 миллиардов долларов. Скажете: и без того цифра солидная. Но это деньги, которые не разворованы, а пущены на реформирование экономики. А самое главное — Польша регулярно платит по ним проценты, то есть долг обслуживается! Поэтому Запад абсолютно спокоен за свои деньги. И продолжает вкладывать в Польшу. В прошлом году прямые инвестиции составили 5 миллиардов долларов, в нынешнем — около десяти. Инфляция в ноябре составила всего 0,6 процента! Падает уровень безработицы. Два года назад он приближался к 15%, сегодня — чуть более десяти. Но это нормально для страны, так быстро и успешно поменявшей экономические рельсы. Во Франции сегодня безработица составляет 15%. В Германии непростая ситуация... Так чего требовать от Польши?

Пусть знает работяга с тракторного завода, что в якобы приближающейся к «ужасной катастрофе» Польше его коллега, квалифицированный рабочий, получает сегодня в среднем 500 долларов в месяц. Это при том, что продукты в Польше дешевле, чем в Беларуси, не говоря уже об их разнообразии. Не говорю уже о богатстве промышленного рынка... Об этом и без меня знают те же наши «челноки», которым белорусская власть зарубила элементарный бизнес для выживания...

И все это благодаря и «долгам», и инвестициям... Но кто, скажите, будет «вкладывать» в нашего правителя с его внутренней, внешней и прочей политикой? Сумасшедших на Западе нет. А если и соблазнилась фордовская автомобильная фирма, которую за наш с вами счет освободили от налогов, чтобы она в порядке благодарности щедро делилась с режимом, так ведь это не показатель... Это не инвестиции. Это валютная инъекция режиму для поддержки дыхания. Но не нашего с вами, а именно его, режима, дыхания.

На фоне «высочайших» пророчеств по поводу ближайшего будущего Польши особенно пикантным выглядит опубликованное «Газетой Выборчей» (30 ноября) обширное, почти на две страницы интервью с заместителем председателя комиссии по международным делам национального собрания Беларуси Сергеем Костяном. Попасть на страницы этого издания — да еще в таком объеме — большая честь для г-на Костяна, фигуры малозаметной и ничего не решающей на белорусском политическом Олимпе, но в последнее время изо всех сил надувающей щеки и стремящейся казаться чем-то значительным.

Разумеется, это дело Цезария Голиньского, собкора «Выборчей» в Минске, выбирать себе собеседников. Но стоило ли приподнимать эту личность, даже имея в виду ее саморазоблачительные откровения? Ну вот г-н Костян открыто хамит в адрес президента Польши, обращаясь к нему на «ты»: *«Если во время выборов президентских тебе не помогли американцы, то объясни, почему в декабре 1996 года в Лиссабоне выступил с подлой речью против Беларуси?»* И тут же прибавляет: *«Могу сообщить Квасьневскому, пускай подает на меня в суд...»*

Я, в свою очередь, тоже могу сообщить г-ну Костяну: президент Польши не будет подавать на него в суд, хотя г-ну Костяну этого очень хочется... Потому что для президента Польши г-н Костян как политический деятель и вообще как личность просто не существует.

И, наверное, понимая это, г-н Костян еще более ярится: *«Что ты за президент? В таком случае* (если на деньги ЦРУ будет организована на территории Польши радиостанция «Свободная Беларусь». — *С.Б.*) *и мы постараемся организовать антипольские силы»*.

Вот я и думаю: найдутся ли в администрации президента здравомыслящие люди и укажут г-ну Костяну его место на шестке? А то ведь завтра он и впрямь объявит войну Польше...

*Варшава*

## На борту самоубийца

**2 декабря в самолете, вылетевшем из Франкфурта в Минск, 27-летний белорус попытался покончить жизнь самоубийством.**

Причины такого шага пока нам неизвестны, но обстоятельства происшедшего наталкивают на мысль, что Игорь Н. стремился избежать возвращения на родину. Белорусский гражданин был депортирован из Германии немецкими пограничными службами. Для попытки расстаться с жизнью Игорь использовал пластиковый нож, который был в «обеденном наборе» в самолете.

Оказать соответствующую медицинскую помощь неудавшемуся самоубийце в воздухе не удалось, и самолет приземлился в Варшавском аэропорту. Раненного там перевязали и на всякий случай отправили в больницу — в сопровождении пограничников. Как сказали мне в клинике, куда был привезен из аэропорта Игорь, его рана не представляла опасности для жизни, так что после перевязки он сразу же мог покинуть больницу. В его крови было отмечено наличие алкоголя. В консульском отделе белорусского посольства утром 3 декабря предоставить дополнительную информацию прессе об Игоре Н. отказались, сославшись на то, что с этим вопросом как раз разбираются.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

